*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

# Народная Воля

№ 218 (570)
Пятніца, 4 снежня 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.













**Закулисье**

*Михаил ПОДОЛЯК*

## Почему лукашенковские офицеры пытались взломать дверь губернатора Петра Пётуха...

*По сведениям, которые поступили в редакцию из хорошо осведомленных источников, в начале этой недели из собственного кабинета насильственно был препровожден в "никуда" губернатор Минской области **Петр Петрович Пётух**. Судя по всему, тучи над председателем Миноблисполкома сгущались уже довольно давно. Но обычно президентское недовольство его управленческими способностями не шло дальше прилюдной взбучки на каком-нибудь номенклатурном собрании. На сей раз события разворачивались гораздо драматичнее.*

*Еще на прошлой неделе президент Лукашенко дал задание соответствующим структурам тщательнейшим образом подготовить материалы для комплексной финансово-хозяйственной проверки Минской области. Дескать, у него появились определенные подозрения в отношении ряда высокопоставленных региональных чиновников. И уже в начале нынешней недели Александр Григорьевич заявляет, что "нет ни малейшего сомнения в том, что именно Пётух виноват в катастрофе с продовольственным обеспечением Минска и Минской области". По мнению президента, Петр Петрович абсолютно бездарно руководит вверенной ему областью да к тому же не совсем чист в финансовом и моральном плане. Губернатор Минской области, и без того не отличавшийся особой политической храбростью, испугался не на шутку. Буквально через несколько часов после гневной тирады президента Пётух, закрывшись в своем рабочем кабинете, приступил к паковке собственных пожитков. Верно рассудив, что гнев и публичное негодование президента в нынешнее время могут означать только одно — скорую и позорную отставку. Следовательно, резонно посчитал Петр Петрович, лучше заблаговременно подготовиться к расставанию с кабинетом губернского начальника. Но у некоторых офицеров-силовиков из ближайшего окружения президента сдали нервы. Почему-то решив, что Пётух закрылся в собственном кабинете то ли для того, чтобы уничтожить кое-какие документы, то ли, чтобы по свойски проститься с друзьями, они попытались взломать дверь. Такая вот детективная история развернулась на этой неделе в Миноблисполкоме. Подчиненные же Петуха до сих пор находятся в шоковом состоянии и делают вид, что не в курсе произошедших с шефом метаморфоз.*

*Остается надеяться, что Петр Пётух разделит судьбу опальных министров в отставке, а не составит компанию известным "заключенным по хозяйственным делам" — Старовойтову, Хилько, Леонову. Впрочем, пока прецедентов ареста среди региональной элиты не было. Власть специализировалась исключительно на политиках, банкирах, журналистах.*

Очевидно, что без жертв нынешний социально-экономический кризис не обойдется. Кто-то должен ответить за товарный дефицит, продовольственные очереди, резкий рост цен на потребительские товары и катастрофическое падение уровня жизни. Лукашенко неоднократно подчеркивал личную непричастность к проблемам сегодняшнего дня. А раз не президент, то кто-то другой должен быть козлом отпущения?

Правительство вроде бы работает: днем в собственных апартаментах, ночью — в качестве технического персонала Республиканского штаба. Оппозиция вовсю занимается подготовкой к выборам в местные советы, а также промоушеном эпохального февральского заседания Верховного Совета XIII созыва, готового назначить дату очередных президентских выборов. Да и разве в состоянии малочисленная и внесистемная оппозиция организовать столь масштабный продовольственный и товарный "голод" в республике. Здесь чувствуется рука хорошего режиссера, имеющего доступ к техническим средствам, человеческим ресурсам, финансам, информации. Все это как нельзя лучше укладывается в версию саботажа со стороны региональных элит. И президент начинает крупномасштабную кадровую чистку.

Сразу оговорим ряд версий возможно скорого "ухода" Пётуха, которые неизбежно появятся в оппозиционной прессе. Первая — и самая очевидная — состоит в том, что, мол, начинается кампания против "старых" губернаторов (интересно, что уже циркулируют слухи о скорой отставке и Владимира Заломая) в пользу юных "варягов" из президентского окружения. Вторая "перспективная" версия сводится к тому, что Пётуха убирают как ставленника некогда мобильного силового тандема В.Кез — Ф.Канцеров, проигравших Виктору Шейману право влияния. Якобы Фарид Канцеров, пребывающий ныне в Москве, выразил согласие обеспечивать необходимой информацией о белорусских делах команду Юрия Лужкова. В случае, конечно, если последнему придется столкнуться с Лукашенко в предвыборных баталиях. Третья и наиболее простая версия — якобы участие Пётуха в качестве одного из промежуточных звеньев в сложной цепи хищений кредитных ресурсов, выделенных государством на сельское хозяйство. Безусловно, подобные и, не исключено, другие версии неизбежно появятся в прессе. Наряду, конечно, с официальной версией: Пётух и только Пётух виноват в столичном продовольственном кризисе.

На самом деле возможное увольнение председателя Миноблисполкома — всего лишь очередной психологический этюд президента, причем устрашающего действия. И направлен он прежде всего против чиновников на местах. Известно, как чутко и нервно реагирует Лукашенко на любые проявления нелояльности со стороны госслужащих. И можно представить себе, какие чувства испытывает президент, когда ему докладывают, что две трети чиновников (особенно в регионах) проявляют, мягко говоря, недовольство усилением пропагандистской и силовой номенклатуры. Ведь, по сути, это означает, что сегодня идет передел государственных зарплат, льгот и привилегий явно не в пользу "хозяйственного сектора". А кто же согласится пахать по-максимуму, получать по-минимуму и при этом бояться собственных шагов по коридорам власти?



*Думал ли губернатор Минской области Пётр Пётух, танцуя с артисткой во время церемонии открытия Дожинок-98 в Несвиже, что над ним сгущаются тучи?*

**Фото IREX/ProMedia.**

## Заява старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання

У сувязі з тым, што пасля пасяджэння Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якое адбылося 24 лістапада 1998 года, да мяне паступае многа запытаў, у якіх людзі цікавяцца прынятымі на ім рашэннямі, лічу неабходным зрабіць наступную заяву:

1. Перш за ўсё хачу падзякаваць усім тым, хто не застаецца раўнадушным да той сітуацыі, якая склалася ў дзяржаве, і хто разумее, што гэта вынік здзейсненага А.Лукашэнкам і яго паплечнікамі ў лістападзе 1996 года дзяржаўнага перавароту і спробы аднавіць у Беларусі таталітарны рэжым. Пры гэтым хачу з задавальненнем падкрэсліць, што, як бачна па колькасці запытаў і з паведамленняў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з месцаў, незадаволеных рэжымам Лукашэнкі з кожным месяцам становіцца ўсё больш і больш.

Інакш і быць не можа. Прэзідэнцтва Лукашэнкі яшчэ раз пацвердзіла даўно вядомую ісціну, што чалавек, які не мае адпаведнай тэарэтычнай падрыхтоўкі і не прыдбаў станоўчага вопыту кіраўніцтва дэмакратычнымі метадамі, наогул не здольны да творчай, стваральнай працы, а тым больш да такой адказнай, як кіраўніцтва дзяржаваю. Менавіта зыходзячы з яго дзеянняў можна меркаваць, што за ўзор дзяржавы, якую ён марыць пабудаваць у Беларусі, ён узяў фашысцкую Германію, а сваю ролю як кіраўніка дзяржавы ўяўляе сабе такой, якую выконваў А.Гітлер у Германіі тых часоў. Менавіта таму яго памагатыя і выносяць яго партрэты побач з партрэтамі другога вядомага дыктатара — І.Сталіна. І калі да ўсяго гэтага дадаць яшчэ і многае іншае, дык адразу становіцца ясна, што завесці дзяржаву ён можа толькі ў вялікі тупік, дарэчы, аб чым я і папярэджваў напярэдадні правядзення так званага лістападаўскага (1996 г.) рэферэндуму. І вельмі добра, што гэта пачынаюць разумець усё больш і больш людзей.

2. Сапраўды Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў рашэнне правесці 15 студзеня і 9 лютага 1999 года свае пасяджэнні і прыняць на іх адпаведныя рашэнні аб падрыхтоўцы і правядзенні вясною 1999 года чарговых выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, як таго і патрабуе Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь.

Для падрыхтоўкі названых пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь абрана камісія ў складзе членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (С.Шарэцкага, Г.Карпенкі, М.Гіруця, С.Домаша, С.Калякіна), двух старшынь пастаянных камісій Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (Р.Пракаповіча і У.Савічава), кіраўнікоў фракцыі АГП і фракцыі сацыял-дэмакратаў у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь (адпаведна — С.Багданкевіча і М.Грыба), старшыні Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў, дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь В.Ганчара, дэпутата Вярхрўнага Савета Рэспублікі Беларусь В.Шчукіна.

3. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь спадзяецца на падтрымку сваіх рашэнняў па гэтым пытанні большасцю беларускага народа, над якім групаю асоб на чале з Лукашэнкам і пры дапамозе многіх расійскіх палітыкаў экстрэмісцкага кшталту праводзіцца эксперымент па аднаўленні фактычна сталінскіх парадкаў з іх чэргамі і канцлагерамі і стварэнні новай (цяпер ужо нейкай славянскай) імперыі, дзе беларусам, мяркуючы па адносінах Лукашэнкі да іх, іх культуры і мовы, будзе адведзена роля слугі палітыкам імперска-расійскага накірунку з выцякаючымі з гэтага адпаведнымі вынікамі.

4. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь спадзяецца на падтрымку яго рашэнняў міжнароднымі арганізацыямі, кіраўнікамі і парламентамі дзяржаў, якія ў свой час выказаліся аб нелегітымнасці так званага рэферэндуму 1996 года і працягваюць прызнаваць адзіным легітымным заканадаўчым і вышэйшым прадстаўнічым органам у Рэспубліцы Беларусь Вярхоўны Савет і на падставе гэтага падтрымліваюць сувязі з яго кіраўніцтвам і дэпутатамі.

Я веру ў беларускі працалюбівы і таленавіты народ і яго розум!

Я веру ў мудрасць і паслядоўнасць палітыкі, якую праводзяць кіраўнікі міжнародных арганізацый і цывілізаваных краін!

**С.ШАРЭЦКІ,**
**старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання.**

**Громкое дело**

## Молодой Василий Старовойтов не жалел своей жизни, защищая Родину. Благодарная Родина не пожалела металла на решетку, за которой содержит своего защитника

Трудно сказать, сколько времени 74-летний инвалид выдержит моральное и физическое напряжение. На второй этаж здания суда В.Старовойтова поднимают под руки двое ОМОНовцев. И вовсе не из-за боязни побега — Василий Константинович с трудом различает ступени лестницы.

При обращении служителя Фемиды подсудимый, в соответствии с процессуальными нормами, обязан вставать. Больно смотреть, как тяжело приподниматься со скамьи этому преклонного возраста человеку. В отличие от своих 40-летних товарищей по клетке, Василий Старовойтов может стоять, лишь держась двумя руками за стальные прутья ограждения.

Стола в судейской клетке нет. Старику Старовойтову необходимые по ходу судебного исследования пометки придется делать на коленях. И как потом пользоваться этими корявыми записями?

Такая мера пресечения, как содержание под стражей, применяется к лицам, в отношении которых наличествуют достаточные основания полагать, что обвиняемый, находясь на свободе, скроется от суда или воспрепятствует установлению истины по рассматриваемому уголовному делу, или будет заниматься преступной деятельностью. Куда убежит этот с трудом передвигающийся защитник Отечества? Все следственные действия закончены полностью, и правоохранительным органам инвалид второй группы уже никак не помешает. Судья Н.Чмара не заявила, что располагает данными о намерении Василия Старовойтова убежать или помешать судебному следствию. Тем не менее дважды Героя труда, кавалера орденов и медалей держат под стражей. Василий Старовойтов, на сегодняшний день лишь подозреваемый в нарушении закона, по мнению Надежды Чмара, еще может содержаться под стражей, не умерев.

Может, вот только ради кого его держат за стальными прутьями? Зачем вообще эта звериная клетка в зале правосудия? Что, Старовойтов убил кого или покушался на убийство? Он что, бросается на людей?

Но Надежда Чмара, хоть она даже и председатель суда, на мой взгляд, не хозяйка на своем рабочем месте. Клетки, как сказал журналистам представитель облпрокуратуры, установлены по требованию милиции. Люди в пятнистой форме — фактические хозяева в здании правосудия. И в зале суда распоряжается не судья, а милиция: работает оперативная радиосвязь, перед немощным стариком стоит здоровяк ОМОНовец и угрожающе держит руку на пистолете.

При перевозке в мрачной будке автозака напротив находится рычащая собака без намордника. После возвращения в Бобруйский изолятор час, а то и два арестантов держат в так называемом "стакане", где даже в туалет нельзя сходить.

Так благодарная Родина поступает со своим защитником. Так на ее просторах "человек с ружьем" обращается с крестьянином, вырастившим для него хлеб и сало. Так на Беларуси внуки ведут себя со стариками.

Председательствующая на судебном процессе Н.Чмара заявила, что слушается обыкновенное уголовное дело. Нет, уважаемая Надежда Филипповна, дело Старовойтова — особое дело. Может быть, он где-то и переступил букву закона. Но можно ли было в той системе, подчеркиваю — **системе,** работать так, как работал Старовойтов и не допустить никакого **нарушения**? Отпускал по запискам **нужным** людям продукты? Что это, новость? Покажите хотя бы одного председателя колхоза, директора совхоза, за которым не водится такой грешок — не найдете. Допущены нарушения в хозяйственной деятельности подсобных предприятий? Скажите, а при нынешних порядках в стране и при действующем законодательстве можно ли, не нарушив ни одной буквы закона, добиться успеха? Может, небезызвестная фирма "Торгэкспо" является "святой"? Пошлите независимых ревизоров, пусть проверят...

Да что и говорить, из 74 лет Василий Константинович Старовойтов, можно сказать, все 74 года отдал деревне, сельскому хозяйству. Мог быть первым секретарем райкома, обкома и даже ЦК. Сколько людей использовали колхоз, совхоз как трамплин? Тысячи, десятки тысяч, а он, Старовойтов, остался в глубинке, вместе с теми, кого мы называем простым народом. И не просто остался, а начал экспериментировать, идти по целику. И, конечно, не без ошибок и каких-то нарушений. Но дай Бог, чтобы в нашей стране было побольше таких Старовойтовых. И какой приговор не вынесет суд, для меня Василий Константинович Старовойтов останется Василием Константиновичем Старовойтовым.

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**



**Прэс-канферэнцыя: аб чым гаварылася?**

## Ці будзе цёпла ў кватэрах?

**— Калі ў кватэры холадна, дык ці варта плаціць за ацяпленне?**

— У такіх выпадках павінен рабіцца пераразлік аплаты за ацяпленне.

**— А якая тэмпература павінна быць у доме?**

— Васемнаццаць градусаў. Калі — меней, тады варта паведамляць у жыллёва-эксплуатацыйныя канторы, патрабаваць пераразлік за цяпло.

Гэта фрагмент з прэс-канферэнцыі кіраўнікоў Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі. На сустрэчу з журналістамі прыйшлі міністр Барыс Батура, начальнікі ўпраўленняў Станіслаў Дземашкевіч і Мікалай Ліпень. Са слоў міністра выніkала, што хваляваца за цяпло ў дамах не варта, разам з тым многія жыхары скардзяцца на холад у кватэрах.

Думаю, варта прывесці яшчэ некаторыя адказы міністра на пытанні журналістаў.

**— Паступаюць сігналы, што тым, хто своечасова не заплаціў за кватэру, не выдаюць даведак. Чаму?**

Адказваючы на гэтае пытанне, міністр патлумачыў, што цяпер прымаюцца меры да тых, хто не аплачвае камунальныя паслугі. Ім адмаўляюць у прадастаўленні пэўных камунальных паслуг, у прыватнасці, адключаюць святло, ваду, затрымліваюць выдачу даведак. Але падобныя меры прымяняюцца пакуль толькі да злосных неплацельшчыкаў.

*Тут міжволі ўзнікаюць пытанні: "А ці маюць права чыноўнікі не выдаваць даведкі ў такой сітуацыі? Ці можа рабочы з сучаснага заробку аплачваць дарагія камунальныя паслугі?"*

**— У якую суму цяпер абыдзецца прыватызацыя кватэры?**

Аказваецца, у даволі "круглую". "Танная" прыватызацыя жылля — ужо ў мінулым. Хто не паспеў, вымушаны будзе аплачваць астаткавы кошт кватэры. А хто атрымаў кватэру ў новым доме і захоча яе прыватызаваць, дык будзе аплачваць яе сённяшні кошт. Праўда, і кошт атрыманых прыватызацыйных чэкаў таксама значна павялічваецца.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

**Слышали?**

## Молодые готовятся к маршу-протесту

Белорусская ассоциация молодых политиков (БАМП) подала заявку в горисполком г.Минска на проведение 10 декабря с 15.00 до 17.00 марша-протеста против массовых нарушений прав человека в Беларуси. Акция приурочена к 50-й годовщине принятия Декларации прав человека. Во время марша, который пройдет, если дозволит власть, по проспектам Машерова и Скорины, предполагается передача главе государства петиции "50 нет президенту", а также требований в ряд структур и органов государственной власти.

**А.ЦЫНКЕВИЧ.**

## На Окрестина бьют в литавры

2 декабря 1998 года гром оркестра потряс улицу Окрестина и прилегающие переулки в Минске. В литавры били белорусские борцы за права человека: из столичного приемника-распределителя после отбытия 15-суточного ареста освобождали Вадима Конопацкого и Вячеслава Сивчика. Из-за колючей проволоки выходили лучшие представители белорусского народа, водворенные за решетку судьей Партизанского района г.Минска Николаем Трубниковым.

**Валерий ЩУКИН.**

## Літва — Германія: бязвізавы рэжым

На праведзенай 1 снежня сустрэчы з прэм'ер-міністрам Літвы Гедымінасам Вагнорусам новы пасол Германіі ў гэтай краіне Дэтлаф фон Берг афіцыйна праінфармаваў, што з першага сакавіка 1999 года паміж Літвой і Германіяй уводзіцца бязвізавы рэжым. На сустрэчы адзначалася, што адмена віз з'яўляецца вынікам доўгатэрміновых перагавораў паміж Літвой і Германіяй, накіраваных на ажыццяўленне свабоднага перамяшчэння грамадзян абедзюх краін.

**ЭЛЬТА-БелТА.**

**Надвор'е**

4 і 5 снежня на тэрыторыі рэспублікі захаваецца воблачнае, з праясненнямі надвор'е; 4-га ўначы — без ападкаў, удзень — па захадзе рэспублікі, 5-га на большай частцы тэрыторыі — снег, месцамі мяцеліца. Вецер паўднёва-ўсходні, 6—11, парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра 4-га ўначы -18...-23, удзень -7...-12, на захадзе рэспублікі ўначы -11...-16, удзень -4...-9; 5-га ўначы -6...-11, удзень -2...-7.





Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

| АБАНЕМЕНТ | на газету | 63222 |
|---|---|---|
| Народная Воля | | (індэкс выдання) |
| | | Колькасць камплектаў |
| на 1999 год па месяцах | | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)
Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

| ПВ | месца | літар | на газету | 63222 |
|---|---|---|---|---|
| Народная Воля | | | | (індэкс выдання) |
| Кошт | падпіскі ___ руб. | | Колькасць камплектаў | |
| | пераадрасоўкі ___ руб. | | | |
| на 1999 год па месяцах | | | | |

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)
Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

Народная Воля
4 СНЕЖНЯ 1998 г.

**Позиция**

*Анатолий ЛЕБЕДЬКО,
депутат Верховного Совета 12-го и 13-го созывов, президент Белорусской ассоциации молодых политиков*



# Бросят ли демократы спасательный круг диктатуре?

Ошибается тот, кто полагает, что исход региональных выборов решится весной следующего года. Победитель определяется сейчас. И не только по этому вопросу. Выборная кампания — лишь маленький эпизод грандиозного сражения, свидетелями и участниками которого мы станем в 1999 году. Будущее Беларуси, развитие событий зависят не от распределения мест в малозначащих псевдоструктурах власти, а от того, кто будет владеть политической инициативой в стране. Именно за это предстоит борьба, а не за места в безжизненных Советах. Недопонимание происходящего, к сожалению, посеяно широко в демократической среде.

Надеяться на положительный результат можно, во-первых, только при наличии единства внутри демоппозиции, во-вторых, при условии, что позиция по отношению к предстоящим выборам будет сформулирована до конца текущего года. Как добиться этого на практике? Лидеры 4—5 ведущих демократических партий подписывают меморандум об условиях, при которых возможно участие демократов в региональных выборах. Во-первых, это требование предоставления прямого теле- и радиоэфира, во-вторых, наличия законодательства, обеспечивающего проведение свободных выборов (формирование на паритетных началах избирательных комиссий, проведение выборов в течение одного дня и т.д.). Документ должен обязательно содержать срок, до которого эти требования должны быть удовлетворены, — до 1 февраля. В противном случае выборы проходят без участия демократических партий. Такой подход к избирательной кампании — это вариант сильной позиции. Оппозиция здесь представлена как равноценный субъект'. К тому же такой подход позволяет демократии контролировать ситуацию, а не быть статистами и сторонними наблюдателями.

Необходимо создать прозрачные, но жесткие рамки поведения демпартий. Сегодня это возможно. Завтра будет поздно. Участие в выборах при любых условиях — это вариант слабой позиции демократов. Очевидно, что власть в начале следующего года осуществит массовые инвестиции для поддержки этой позиции. Куплю-продажу отдельных политиков-"подснежников", равно как и псевдодемократических партий исключать нельзя. Форма оплаты — любая: деньги, должности, услуги, содействие на выборах. Не удивлюсь, если отдельные политики, депутаты Верховного Совета выступят в роли телеагитаторов участия в выборах. Нельзя забывать и о возможностях репрессивно-принудительного аппарата власти.

Нельзя согласиться с предложением дать отбой участию в избирательной кампании накануне выборов. Это будет глас вопиющего в пустыне. Оппозиция не обладает ресурсами и возможностями для быстрого информирования населения. Об этом решении не узнает не только большинство избирателей, но и рядовых членов партий. К тому же раскрученный маховик будет вращаться по инерции. Соблазн сыграть в политическую рулетку для многих кандидатов окажется непреодолимым.

Уже сегодня мы должны четко, внятно и однозначно заявить населению страны и международному сообществу о своей позиции. Предложенные условия справедливы и законны. Если власть их отклоняет, она берет на себя ответственность за срыв избирательной кампании. Ибо выборов без участия демократической оппозиции быть не может по определению. В этой ситуации у демократов есть время, чтобы сказать и быть услышанными и понятыми в Жабинке и Брюсселе, Шклове и Вашингтоне. И что немаловажно, только так можно избежать раскола демократических сил и отсечь от демократов временных спутников. Посмотрим, какова степень заинтересованности в региональных выборах у различных субъектов.

Интерес демоппозиции — свободные демократические контролируемые выборы. Президент и "партия власти" заинтересованы:

а) в самом факте выборов, с обязательным участием оппозиции и международных наблюдателей;

б) в беспроигрышных, а значит, недемократических выборах.

Международное сообщество устроят выборы с максимально возможной степенью демократичности.

Из этого следует, что слабая позиция, то есть обязательное участие в выборах, — это сценарий, полностью отвечающий интересам президента. Сильная позиция, то есть сценарий, изложенный выше, объективно отвечает интересам Беларуси и практически всех субъектов политической жизни, включая большинство нынешней "партии власти".

Рассмотрим конфигурацию и состав той части демпартий, которая выступает за обязательное участие в региональных выборах. Группа А — политики-"подснежники" — молодые романтики, заполнившие образовавшийся в последние два года вакуум в партийных структурах. Мотивация их действий — в сфере личностных интересов. Ими движут естественные честолюбие, амбиции, возможность микролоббирования, а иногда и просто упрощенное восприятие происходящего. Группа Б. Здесь превалирует групповой интерес. Речь идет о партиях, имеющих линию фронта в Беларуси, а генштаб в Москве. У них есть возможность получить от российских спонсоров определенное финансирование на избирательную кампанию, а значит, поддержать себя и партийную инфраструктуру. Иными словами, напомнить о себе за чужой счет. Во-вторых, это небольшие партии, не имеющие ни социальной поддержки в обществе, ни заметного влияния, но обладающие завышенным самомнением. Их не устраивает сложившаяся партийная иерархия. Предстоящие выборы для них — слабая надежда на перераспределение внимания и влияния. Нельзя исключать наличия в демократическом лагере политиков, сотрудничающих с нынешним режимом. Как свидетельствует практика, этого не удалось избежать демократам ни в одной постсоциалистической, постсоветской стране. Здесь мы уже имеем дело с целенаправленной, профессиональной работой. И наконец — четвертая группа — политики-идеалисты. Это люди, которые искренне верят, что региональные выборы могут быть справедливыми, свободными и честными. Что перед ними распахнутся двери клубов и предприятий, а вежливый Кисель просто так предоставит прямой эфир. Увы, суровая действительность для некоторых — плохой учитель. Законные, естественные права у диктатуры выпросить нельзя, можно только отвоевать. А для этого необходима жесткая, сильная позиция.

Скажите, что изменится, если в местные Советы власть отберет, отсортирует 3—5 процентов демократов? Разве что избавит вертикаль от комплекса юродивости. Дескать, и у нас все как у людей. У нас оппозиция также принимает участие в управлении регионами, распределяет яйцо и сахар, контролирует работу с письмами трудящихся. А в нагрузку депутатам-демократам подкинут ответственность за происходящее в регионах. Опыта здесь не занимать. Достаточно вспомнить циничную эксплуатацию факта нахождения С.Шушкевича на посту председателя Верховного Совета. Демократы в Беларуси никогда не были у власти. Вся она целиком находилась в руках В.Кебича и его сторонников, имевших большинство в парламенте, но лукашенковская пропаганда смогла убедить значительную часть населения страны в обратном.

Цена региональных выборов 1999 года для Лукашенко необычайно высока. Если ему удастся их провести по сценарию, по технологиям референдума 1996 года, но при участии демоппозиции и международных наблюдателей, он — триумфатор. Президент не может не понимать, что в этих условиях он получает реальный шанс избежать неприятной процедуры — импичмента со стороны Запада. По сути, речь идет о том, будет ли Лукашенко после июля 1999 года в глазах международного сообщества президентом Беларуси или самозванцем из-под Шклова. Кажется, в оппозиции, в отличие от А.Г., это понимают не все.

Нельзя не учитывать и тот факт, что общая ситуация не благоприятствует Лукашенко. Ему придется решать задачи, к которым он, думается, не готов психологически. Есть вероятность, что у президента-трезвенника наступает период политического отрезвления. Из России идут достаточно отчетливые и понятные импульсы. На российский экспресс—2000 все билеты проданы и свободных мест нет. Да, в московской билетной кассе все подчеркнуто вежливы и ласковы и даже что-то обещают. Но уже понятно: законных прав у Лукашенко на предвыборную поездку в вагоне потенциальных кандидатов не будет. А на собственном бронепоезде, даже при поддержке части левой российской оппозиции, дальше Смоленска не проскочишь. Стрелки переведены на запасный путь.

Для А.Г. это катастрофа. Вся внутренняя и внешняя политика была подчинена одной цели — власти в Кремле. Ради этого в стране была введена "бархатная" диктатура. Ради этого власть то пугала, то смешила Европу, каждый раз при этом унижая, позоря Беларусь. Дикий, дорогостоящий эксперимент близится к завершению. Вот только неизвестно: это конец первой части или всей трагедии.

Лукашенко смотрел на Беларусь исключительно как на очередную ступеньку своей политической карьеры. Он выжимал из страны, из ситуации максимум возможного. Это тактика выжженной земли. Так поступают временщики и чужестранцы-варяги. И вот после четырех с половиной лет цель превращается в мираж. Нужно что-то менять, менять кардинально. В этой ситуации хочется начать с чистого листа бумаги. Только Лукашенко это уже не дано...

Вместо хлеба народу все чаще предлагают зрелища. Уже определены жертвенные бараны из состава правительства. Но желудок все хуже и хуже переваривает шоу и многочасовые президентские монологи-обещания. Недовольство начало шевелиться. А здесь, как назло, старший брат с Востока шлет посылки с гуманитарной помощью все реже и реже. А на Западе — новая Берлинская стена, собственноручно возведенная главным белорусским строителем и архитектором рыночного социализма и славянской империи.

Стоит ли в этой ситуации демократам бросать спасательный круг диктатуре, даже при условии, что она "бархатная"?



**Мысли вслух**

## Господин Гайдукевич, не толкайте людей в пропасть

В телеэфире прозвучало интервью с председателем Либерально-демократической партии Беларуси С.Гайдукевичем. Он сказал, что начинает собирать голоса избирателей, чтобы провести референдум за вхождение Беларуси и России в конфедерацию.

Такое сказать может только человек, не изучавший историю своей страны. А история говорит следующее: Республика Беларусь была в составе Российской империи более 200 лет, никаких прав не имела по защите своей территории, а поэтому всякие международные неурядицы России с другими государствами Европы пагубно сказывались на Беларуси.

Возьмем 1812 год. Россия воевала с Францией. Война прошла через территорию Беларуси. Были разрушены и сожжены села, поселки, города, очень много белорусов погибло, оставшиеся в живых жили в нищете долгое время, умирали от болезней.

Возьмем 1914 год. Россия воевала с Германией, та же участь постигла Беларусь и ее народ.

1930—1953 годы. Изуверское уничтожение людей, которому не было равных в мире. "Отец всех народов" насильно вывозил в Сибирь, на Север белорусов и другие народы "осваивать богатства" этих регионов, то есть на верную смерть.

1941—1945 годы. Снова война с Германией, здесь уже все народное хозяйство Беларуси было уничтожено, более 30 процентов белорусов погибло, а потом десятки лет люди умирали от болезней и голода.

Когда у власти была КПСС, решили возводить Чернобыльскую АЭС в таком густонаселенном месте, что случившаяся авария привела к трагическим последствиям. И снова страдает народ Беларуси и его территория.

Все это можно назвать геноцидом, планомерным уничтожением народа Российской империей. И в эту империю председатель ЛДПБ Гайдукевич хочет втолкнуть Республику Беларусь?

Поэтому, господин Гайдукевич, мы твердо заявляем: не толкайте людей в пропасть, дайте людям пожить нормальной жизнью. А это значит, что Беларусь должна быть нейтральной, безъядерной, независимой, суверенной республикой, чтобы своей древней землей распоряжаться самим и чтобы ни один солдат-завоеватель не ступал на ее территорию.

**П.БУЧИНСКИЙ, Б.БРИЛЬ,**
**жители г.Полоцка.**

**Стоп-кадр**



*Вось так выглядае вёска Губічы Буда-Кашалёўскага раёна. Хаткі-развалюхі абапал недобраўпарадкаванай, заваленай снегам вуліцы. Такімі нашы вёскі былі і сто год назад, такімі многія засталіся і цяпер.*

## "Віцязь" перамог у расійскім конкурсе

Старшыня Расійскага саюза прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў Аркадзь Вольскі ўручыў медаль пераможцы агляду-конкурсу "Расійскі прамысловец-98" вытворчаму аб'яднанню "Віцязь".

Гэтай узнагароды і двух дыпломаў беларускія вытворцы аднайменных тэлевізараў удастоены на міжнароднай выставе, арганізаванай па выніках агляду-конкурсу ў Санкт-Пецярбургу.

**Вольга СІДАРОВІЧ.**

**Ведай нашых!**

## Пераможным стаў бераг турэцкі

З перамогай вярнуўся з Анкары Полацкі камерны хор. Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў Міністэрстве культуры, на праведзеным у лістападзе ў сталіцы Турцыі другім Міжнародным фестывалі камерных хароў беларускі калектыў не толькі заваяваў першае месца, але і атрымаў Гран-пры прэзідэнта гэтай краіны. Усяго ж у харавым аглядзе прынялі ўдзел 25 калектываў з розных дзяржаў.

**Эдуард ПІВАВАР, БелТА.**

## Аўтамабілі з беларускай маркай выпускаюцца цяпер і на Украіне

Першыя два дзесяткі аўтамабіляў МАЗ сышлі з канвеера новай зборачнай вытворчасці, якая адкрылася на Украіне на базе Міронаўскага аўтаагрэгатнага завода. Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў прэс-службе Мінскага аўтазавода, пакуль на Украіне будуць выпускаць па аднаму аўтамабілю ў дзень, у перспектыве ж плануецца павялічыць тэмпы вытворчасці да 50 грузавікоў у месяц.

Спецыялісты ацэньваюць ёмістасць украінскага рынку ў 2 тысячы грузавікоў у год.

**Таццяна СМІРНОВА.**

## 1 мільён ЭКЮ складае бюджэт праекта "Рэгіянальнае развіццё і ахова прыроды ў еўрарэгіёне "Нёман"

У Гродне адкрыўся офіс Камітэта па кіраванні праектам "Рэгіянальнае развіццё і ахова прыроды ў еўрарэгіёне "Нёман".

Праект фінансуецца ў рамках праграмы TACIS Еўрапейскага Саюза па трансгранічным супрацоўніцтве. Агульны бюджэт праекта складае 1 мільён ЭКЮ. 15 працэнтаў ад гэтай сумы будзе патрачана на набыццё неабходнага абсталявання і транспарту, астатнія сродкі пойдуць на правядзенне семінараў для эколагаў і зарплату кансультантам праекта.

Сутнасць праекта заключаецца ў даследаванні магчымасцей прынёманскага краю ў мэтах развіцця міжнароднага і экалагічнага турызму і фарміравання міжнароднай экалагічнай сеткі. Рэалізацыяй праекта, які разлічаны на 22 месяцы, будзе займацца кансорцыум англійскіх фірм "ERM" і "The tourism company" і нямецкай "Lahmeyer internationale". Замежныя эксперты будуць вывучаць гісторыка-культурныя і прыродныя багацці Прынямоння, перспектывы развіцця турызму, аказваць тэхнічную дапамогу па ахове прыроды і, пры неабходнасці, прадастаўляць інфармацыю фірмам, якія пажадаюць інвеставаць свае сродкі ў турыстычную інфраструктуру Гродзеншчыны, і складаць для іх бізнес-планы.

**Ася КУНІЦКАЯ.**

**Чытач — чытачу**

## Дзякуй табе, Марыйка!

Паважаны рэдактар! Будзьце ласкавы, дазвольце праз газету выказаць найвялікшую бацькоўскую ўдзячнасць за выдатны твор мінскай вучаніцы 9-га класа Марыі Заяц — "Малітва за беларускую мову".

Я быў вельмі ўражаны гэтай юнацкай любоўю, трывогай, перажываннямі, выказанымі ў "Малітве".

Мілая дачушка, дзякуй табе, вялікі дзякуй за твой талент, адданасць і любоў да нашай шматпакутнай Бацькаўшчыны.

Вельмі рады, што ёсць такія цудоўныя дзеці, а значыць, ёсць у Беларусі і будучыня.

Поспехаў табе, даражэнькая, ва ўсім і заўсёды. Спадзяюся, Бог цябе пачуе і пачуе малітву тваю. І паверне людзей нашых да саміх сябе.

**Уладзімір БРЫЦЬКО.**
*Мастоўскі раён, в.М.Лунна.*

**Рубам!**

## А навошта беларускім чыноўнікам Беларускі нацыянальны універсітэт? Ім і так добра...

Удзельнікі мітынгу, арганізаванага 16 верасня гэтага года Таварыствам беларускай мовы імя Ф.Скарыны і маладзёжным грамадскім аб'яднаннем "Хлоя", накіравалі старшыні Савета міністраў Рэспублікі Беларусь С.Лінгу і міністру адукацыі В.Стражаву зварот у падтрымку беларускамоўнай адукацыі і ідэі стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта.

Нарэшце, вось і адказ за подпісам першага намесніка міністра адукацыі Б.Хрусталёва. Цікавыя рэчы паведамляе аўтарам звароту высокапастаўлены чыноўнік. Аказваецца, у Рэспубліцы Беларусь дзейнічаюць аж 42 вышэйшыя навучальныя ўстановы, якія ўтвараюць, на думку першага намесніка міністра, **"нацыянальную сістэму вышэйшай адукацыі"**. Што ж — давайце разбярэмся, што ёсць уласна нацыянальнага ў гэтай сістэме? А вось што: "У адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам у кожнай навучальнай установе **па жаданні** студэнтаў **могуць быць** створаны беларускамоўныя групы і плыні ці выкладацца па-беларуску **асобныя** дысцыпліны". Зразумелі? Беларуская мова ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі дапускаецца выключна "па жаданні студэнтаў". А жаданне, як ясна кожнаму, можа быць ці не быць. Ды і адкуль яму з'явіцца, калі ў ВНУ моладзь прыходзіць амаль спрэс з рускамоўных школ (аб чым вельмі дбайна клапоціцца тое ж Міністэрства адукацыі). Асобныя беларускамоўныя групы і плыні — зноў жа ясней яснага — могуць быць створаны, а могуць і не — з той жа самай вышэйуказанай прычыны. Таксама, як і выкладацца асобныя дысцыпліны. Нават там, дзе існуюць у нашай вышэйшай школе нейкія астраўкі беларускасці, то гэта сапраўды астраўкі, якія патанаюць у разліваным рускамоўным моры...

Дык ці ж можна, скажыце, лічыць цэласнай сістэмай нешта неабавязковае-выпадковае, фрагментарна-астраўное і ўсяго толькі магчымае? Адказ відавочны і без доўгіх навуковых дыспутаў. Якая ж гэта "нацыянальная сістэма", калі нярэдка ад бацькоў, што не адважваюцца пасылаць дзяцей-школьнікаў у беларускамоўныя класы, можна пачуць цяжкаапрэчваемы аргумент: "А як жа маё дзіця пасля беларускай школы ў інстытуце вучыцца будзе? Там жа ўсё па-руску..."

Як бачым, антынацыянальны круг замкнуўся. Навучанне ў большасці школ вядзецца на рускай мове таму, што ў вышэйшых навучальных установах у асноўным выкладанне ідзе па-руску. Хто ж будзе ствараць у ВНУ **асобныя** беларускамоўныя "групы" і "плыні" для студэнтаў, якія прыйшлі з рускамоўных сярэдніх школ?

Калі ўжо тут гаварыць аб **сістэме,** то хутчэй — аб ганебнай сістэме выціснення роднай мовы з усіх сфер нашага жыцця, у тым ліку і адукацыйнай справы ўсіх узроўняў — ад дзіцячага садка да універсітэтаў і акадэмій. І ў гэтай сістэме, створанай кіраўніцтвам краіны і ажыццяўляемай Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь, няма выпадковасцей, прабелаў, спадзяванняў на "авось" і г.д. Усё тут ахоплена, прадумана, вывeрана і ўвасабляецца ў рэальнасць з жалезнай паслядоўнасцю. Робіцца ўсё, каб сённяшнія і будучыя пакаленні беларусаў хутчэй забыліся пра сваю мову, сталі ў поўным сэнсе "Иванами, не помнящими родства". Такімі і кіраваць, круціць-вярцець лягчэй, чым тымі, хто не згубіў каштоўнейшы дар і духоўнае багацце продкаў — нацыянальную самасвядомасць, мову, культуру, гістарычную памяць.

Так што не варта, паважаны сп.Хрусталёў, спасылацца на "жаданне студэнтаў" там, дзе яўна праглядвае жаданне самога чынавенства, сучасных улад краіны — "заціснуць" беларускую мову так, каб яна і не "піскнула"! Аб гэтым сведчыць безліч паўсядзённых фактаў, якія складаюцца сапраўды ў **сістэму** прыціснення, прыніжэння дзяржаўнай мовы — мовы тытульнай нацыі Рэспублікі Беларусь. Аб гэтым пераканаўча гавораць і многія дзесяткі пісьмаў у рэдакцыю "Народнай волі" аб трывожным, нават небяспечным становішчы, у якім апынулася сёння беларуская мова.

У адказе ж з Міністэрства адукацыі — ну проста "благостная" карціна. А бадзёрае рэзюме — "Міністэрства адукацыі лічыць, што права выбару мовы навучання можа быць рэалізавана ў любой з ужо існуючых вышэйшых навучальных устаноў" — выглядае далекаватым ад рэальнасці. Ідэя стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта, як можна зразумець з міністэрскай паперы, наогул не ставіцца нават на разгляд у вышэйшых кіруючых колах. Навошта, маўляў, беларусам яшчэ нейкі там нацыянальны універсітэт? Абыйдуцца, і так добра...

Але добра — каму? Хіба што самому начальству.

**Рэгіна ІВАНІЦКАЯ.**

## У музеі Сучаснага мастацтва — "новыя імёны"

Амаль на тры тыдні Музей сучаснага выяўленчага мастацтва ператварыўся ў своеасаблівы "райскі куток". Менавіта тэма раю аб'ядноўвае работы маладога мастака Рамана Кароткіна, выстава якіх адкрылася тут у першы па календары зімовы дзень.

Раман Кароткін закончыў Беларускую акадэмію мастацтваў чатыры гады таму. І хоць выстаўляцца пачаў яшчэ з 1989 года, але гэтая выстава для яго — першая персанальная. А прадстаўлены ў яе экспазіцыі дванаццаць карцін, створаных мастаком за апошнія два гады творчасці.

Паводле сцвярджэння самога жывапісца, стымулам для з'яўлення гэтай выставы стала стварэнне Музея сучаснага выяўленчага мастацтва. Тут маладыя таленты маюць магчымасць прадставіць свае творы. Цяперашняя экспазіцыя фактычна паклала пачатак новай серыі выстаў, якую музей сціпла назваў "новыя імёны".

**Кірыл ВАСІЛЕЎСКІ.**

**Дожили!**

## Зарплата инженера на столичном заводе "Термопласт" — 15 долларов

Массовые выступления рабочих, требующих за свой нелегкий труд нормальной зарплаты, явление на Беларуси обыденное. Но недавний бунт на столичном "Термопласте" — явление из ряда вон выходящее. Восстали заводские специалисты: конструкторы, технологи, инженеры...

И было от чего. Рабочему, заколачивающему гвозди в крышку тары и перетаскивающему ящики, начисляют 5 миллионов рублей в месяц, а организатору производства — специалисту с высшим образованием — чуть ли не наполовину меньше. Да и те деньги выдают не в начале, а лишь в конце следующего месяца.

Взрыв недовольства на "Термопласте"— закономерен. И даже не из-за того, что инженер получает меньше рабочего, а потому, что трех миллионов белорусских рублей (15 долларов) едва ли хватает на одного, а как прокормить детей? И аванс на заводе выдают не как у людей — 20—25 числа, а только 30-го. Но не всегда всем, как, например, перед прошлым Новым (1998) годом. Не все заводские специалисты уверены, что и в канун наступающего Нового (1999) года их ребятишки будут с подарками.

Тем не менее специалистов волновала не только зарплата. Руководство завода не предпринимает мер к ликвидации ручных операций, тех, которые выполняют высокооплачиваемые рабочие: откусывание кусачками литников, разрезание отлитых деталей и тому подобное.

Полная неразбериха в учете оснастки, сырья, готовой продукции дезорганизует производство и создает предпосылки к хищению. О каких конкурентоспособных технологиях и изделиях можно говорить, если практически все технологическое оборудование осталось без электроники, а заводские конструкторы, инженеры, технологи не имеют не только систем автоматизированного проектирования (САПР), но даже персональных компьютеров. Основные орудия труда организаторов производства — допотопные калькуляторы и кульманы.

Об этом заводские специалисты 26 ноября с.г. громогласно заявили директору "Термопласта" С.Нагорному, но... Сергей Михайлович сложившееся под его "чутким" руководством положение аномальным не считает. Не узрел "криминала" на данном предприятии за два месяца своей работы и президентский контроль. "Высокопоставленные" проверяющие, в отличие от заводских специалистов, не углядели алогичности в том, что директор предприятия свои обязанности видит не в технологическом переоснащении завода, а... в распределении 10 процентов квартир помимо общей очереди (?!).

**Данила ХАЛЕЦКИЙ.**

**Печально**

## В административном правонарушении обвинили, но найти в нормативном акте соответствующую статью не смогли

Полдня в Партизанском РУВД Минска составляли на Валерия Щукина новый протокол за участие 5 ноября 1998 года в митинге протеста рабочих. Как уже сообщалось, первый вариант обвинительного акта суд вернул на доработку ("Народная воля" N214 за 27.11.98 г.).

"Околоточный" (полицейский чин) в звании старшего лейтенанта милиции выдохся через десять минут. Не получились у профана, не сведущего в законодательстве, дебаты с депутатом-профессионалом. Одно дело писать по шаблону протокол на старушку, торгующую семечками, другое — на матерого политического бойца. Валерий Щукин в строгом соответствии со статьей 235 КоАП потребовал от "охранки" (органа полицейского надзора) указать в протоколе **существо административного правонарушения и нормативный акт, предусматривающий ответственность за данное правонарушение**.

Дальнейшие события развивались по такому сценарию: старший лейтенант обратился за помощью к капитану, капитан призвал на подмогу майора... И почти три часа между полицейскими и политиком Валерием Щукиным продолжалась сказка про белого бычка. Офицеры с большими и малыми звездами на погонах нудно повторяли о нарушении установленного порядка проведения шествий, а оппозиционер темпераментно требовал показать нарушенную им статью нормативного акта, устанавливающего этот порядок.

Об уровне милицейской эрудиции свидетельствует первая строка протокола — классификация правонарушения и нормативный акт, предусматривающий ответственность за данное нарушение. Майорской рукой в ней записано: исправительные работы или арест на 15 суток (?!).

Знай офицеры Партизанского РУВД азы юриспруденции, вряд ли бы они вообще взялись за составление протокола. Потому как ни Декрет N5, ни так называемый закон о собраниях, митингах, уличных шествиях и пикетировании не предусматривают административной ответственности за участие в несанкционированных шествиях. Не предусматривают эти президентские акты и наказания за высказывание вслух политических и экономических лозунгов (так милицейские аналитики назвали требования рабочими зарплаты). В административном законодательстве вообще нет групповой ответственности — каждый отвечает только за себя.

Руководствуясь Конституцией Республики Беларусь — Основным Законом государства, Валерий Щукин написал в протоколе: "Ходил и ходить буду, говорил и говорить буду!" Никто не вправе указывать человеку когда, где, куда, с кем ходить и о чем меж собой говорить.

5 ноября 1998 года более часа по столичным улицам двигалась милицейская машина, а из ее репродукторов раздавались предупреждения Валерию Щукину об ответственности за участие в шествии, запрещенном Мингорисполкомом. У прохожих это вызывало хохот — потому как документа такого рода в истории города еще не было. Но в Партизанском РУВД столицы до сих пор свято верят, что запрет городских властей на движение в тот вечер граждан по тротуарам улиц Козлова, Долгобродской, Скорины существует.

К глубокому сожалению, правоохранительные органы Беларуси, похоже, ныне не комплектуются людьми думающими. Видимо, требуются там лишь умеющие писать по образцу и ставящие свои подписи под чем угодно.

5 ноября "злостный нарушитель" руками не размахивал, так как нес профсоюзный флаг. Тем не менее документ за подписью большого гаишного начальника о препятствовании движению транспорта приложен к протоколу и на этот раз. Более того, Валерий Щукин обнаружил в деле пронумерованный, то есть строгого учета, незаполненный бланк протокола с подписями двух свидетелей.

И не боятся же офицеры милиции, что так себе и смертный приговор подпишут. А ведь случай такой в истории уже был.

**Никита ПИГУЛЬ.**

Родослов

# Белорусское Дворянское собрание

Недавно Белорусское Дворянское собрание отметило свое четырехлетие. 20 октября 1994 г. его устав зарегистрирован Министерством юстиции Республики Беларусь. У истоков Собрания стояли Владимир Алексеевич Афанасьев и Инесса Валентиновна Бориславская герба "Срженяво". А предыстория Дворянского Собрания в Беларуси такова.

Впервые о себе после многолетнего господства безбожной большевистской власти потомки дворянского сословия заявили накануне развала Советского Союза. В 1990 году был создан Союз потомков российских дворянских родов — Российское Дворянское собрание (РДС). Правда, не все тогда смогли доказать свое дворянское происхождение и стать учредителями РДС. В числе учредителей вначале были жители Москвы, затем — потомки дворян из других регионов России и республик тогдашнего Советского Союза.

Департаментом Герольдии РДС было разработано Положение о приеме новых членов в РДС, которое должно базироваться на дворянском законодательстве былой Российской империи, но в то же время учитывать сегодняшние реалии. Представители регионов в РДС стали образовывать дворянские организации на местах.

Так возникло Белорусское Дворянское собрание. Первым его предводителем был избран Владимир Алексеевич Афанасьев, который возглавлял бессменно БДС в течение нескольких лет до своей кончины в мае этого года. Его эстафету на этом посту приняла Инесса Валентиновна Бориславская, являющаяся потомком шляхтичей Бориславских герба "Срженяво", упоминаемого в Гербовнике Польском Несецкого.

Белорусское Дворянское собрание, как и большинство таких общественных объединений бывших советских республик (Эстонское, Литовское, Латвийское, Молдавское), входит в состав единого Российского Дворянского собрания. Ныне в БДС имеется несколько категорий членства.

Действительные члены — это потомки дворянских родов или лиц, выслуживших права потомственных дворян по мужской линии к февралю 1917 года. По законам бывшей Российской империи, эти лица являются потомственными дворянами и вносятся в традиционные части Дворянской Родословной книги. Ассоциированные члены — это потомки дворянских родов по женской линии. Члены-корреспонденты — временная категория членства до 2-х лет для лиц, представивших неполные сведения о своем дворянском происхождении и разыскивающих необходимые документы.

На 3 октября 1998 г. в Белорусском Дворянском собрании было 22 действительных, 10 ассоциированных и 22 члена-корреспондента. В 1897 г. в Беларуси (в современных границах) проживало 149.168 потомственных дворян.

Белорусское Дворянское собрание не является политической организацией. Но оно тем не менее имеет четкие политические идеалы, главные из которых — **Вера, Царь, Отечество**.

Вера для нас означает высокую нравственность, любовь к ближнему, неукоснительное следование заповедям Христа. Царь — (об этом мы говорим открыто) — реставрацию наследственной монархии во главе с помазанником божьим как исторической формы правления. Считаем, что эта форма способна обеспечить стабильность в обществе, правопреемственность институтов власти и ее безболезненный переход от одного главы государства к другому. Как заявила Ее Императорское Высочество Великая княгиня Мария Владимировна в этой связи: "Мы всегда пребываем в готовности ответить на народный призыв, но ни в коем случае не хотим навязывать себя соотечественникам. Мы низменно будем выполнять наш долг перед Родиной, используя все наши возможности и прилагая все наши силы для ее блага".

Мы исходим из того, что белорусский народ сам решает свою судьбу. Политика — не наше поле деятельности. Однако могу не без гордости сказать: наши предки — дворяне, шляхтичи — служили Отечеству со времен Великого княжества Литовского. И наш долг, долг их законных наследников, так же по-сыновьи служить Родине.

Возрождение Дворянского собрания отнюдь не означает, что его члены ставят себя выше остальных граждан недворянского происхождения, отрицают их ум, талант, порядочность. Мы лишь надеемся, что дворянские потомки сохранили хотя бы толику достоинств своих предков. Мы хотим их употребить во благо Отечества и никому не препятствуем делать то же самое. Своих идей мы никому силой не навязываем. Желаем своим согражданам и всем людям только добра, мира и благополучия.

**Сергей СЕМЕНОВ, член Совета Белорусского Дворянского собрания, потомок шляхетского рода Минкевичей герба "Одровонж".**

**P.S.** Для тех, кто интересуется деятельностью потомков дворян в Беларуси, сообщаю контактный телефон предводителя Белорусского дворянства: 213-39-00.

Стоп-кадр

**На здымку:** *артыстка Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа Галіна Букацiна. Яна атрымала Гран-пры за лепшае выкананне жаночай ролі (роля Галы ў спектаклі "Таму, што люблю..." па п'есе Алены Паповай "Дзень карабля") на фестывалі беларускай драматургіі ў Бабруйску.*

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

Спорт

*Гандбол*

## Белорусам улыбнулся жребий

Состоявшаяся в Загребе жеребьевка квалификационных групп стала символическим стартом мужского гандбольного чемпионата Европы 2000 года. В финальных соревнованиях, которые пройдут 21—30 января в Хорватии, будут участвовать 12 сборных из 37 заявившихся в турнире.

В одной группе с белорусскими мастерами ручного мяча право выступить в финале будут оспаривать команды Чехии, Греции и Боснии и Герцеговины. По мнению специалистов, это — не самая сильная компания, и подопечным главного тренера нашей сборной Спартака Мироновича вполне по силам успешно решить предстоящую задачу. Самыми серьезными соперниками белорусов будут чехи, которые имеют достаточно богатый международный опыт. Достаточно напомнить, что в закончившемся на днях отборочном турнире чемпионата мира они заняли второе место, уступив только норвежцам.

Послужной список других команд гораздо скромнее. Представители Греции, например, прочно занимают нижние ступени гандбольной европейской лестницы, а команда Боснии и Герцеговины еще никогда не преодолевала европейские отборочные турниры.

**Вячеслав ДУТОВ.**

*Футбол*

## Еўропа зноў мацней

У сталіцы Японіі Токіа адбыўся фінальны матч за Міжкантынентальны кубак. Яго аспрэчвалі мінулагоднія пераможцы Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў іспанскі "Рэал" і Кубка Лібертадорас бразільскі "Васка да Гама". З лікам 2:1 перамог мадрыдскі каралеўскі клуб. І гэта ўжо чацвёрты запар поспех еўрапейцаў у сустрэчах з паўднёваамерыканцамі. Агульны баланс таксама на карысць Еўропы — 21:16.

## Сімоні звольнілі з "Інтэра"

Кіраўніцтва папулярнага італьянскага футбольнага клуба "Інтэр" з Мілана адправіла ў адстаўку галоўнага трэнера каманды Луіджы Сімоні. Падставай для гэтага рашэння стала невыразная гульня "Інтэра" ў апошніх турах чэмпіянату краіны, у якім ён зараз займае незвычайна нізкае для сябе сёмае месца. Не выратавала Сімоні ад адстаўкі і тое, што літаральна за гадзіну да гэтага ён быў прызнаны лепшым трэнерам года Італіі. Цяпер абавязкі галоўнага трэнера да канца сезона будзе выконваць румынскі спецыяліст Мірча Лучэску.

**Зміцер ЯРМАК.**

Крымінал

## З каменем на... цеплавоз

У чым правініліся звычайны працаўнік-цеплавоз і машыніст, які знаходзіўся ў яго кабіне, перад гэтай, пакуль невядомай, асобай — любому нармальнаму чалавеку зразумець цяжка...

1 снежня ў 4 гадзіны 40 мінут, праязджаючы станцыю Мачулішчы, машыніст грузавога саставу лакаматыўнага дэпо Мінск раптам убачыў чалавека, які падбег і з размаху кінуў камень прама ў лабавое шкло цеплавоза ТЭП-60. Пасыпалася разбітае шкло, кабіну запоўніла халоднае паветра — у тую ноч было ніжэй за 20 градусаў марозу. Усё, што мог сабе дазволіць машыніст у такой сітуацыі, дык гэта на некалькі мінут спыніць састаў, каб як-небудзь закрыць дзірку. На большае ён не меў права, бо выбіўся б з графіка руху. У такіх умовах ён і вёў састаў да Гомеля...

**Таццяна СМІРНОВА, БелТА.**



Памежжа

## "Левыя" паліто праз граніцу не прайшлі

Пагранічнікі Смаргонскага атрада затрымалі 30 лістапада грамадзяніна В'етнама, які спрабаваў незаконна перавезці праз граніцу 17 скураных паліто.

Як паведамілі БелТА ў Дзяржаўным камітэце Пагранвойскаў, кантрабандны тавар быў знойдзены ў службовым купэ аднаго з праваднікоў поезда "Масква — Калінінград". "Левы" груз перададзены мытным службам, а з яго ўладальнікам праводзіцца разбор.

**БелТА.**

У суседзяў

## Былыя лідэры кампартыі Літвы — на лаўцы падсудных

Усіх шасцярых арганізатараў спробы антыдзяржаўнага перавароту ў Літве ў студзені 1991 года прапанавана прыгаварыць да працяглых тэрмінаў зняволення. Як стала вядома карэспандэнту БелТА, у апошні дзень лістапада на пасяджэнні калегіі Вільнюскага акруговага суда выступіў дзяржаўны абвінаваўца.

Пракурор Гінтаўтас Пашкявічус адзначыў, што ўсе падсудныя не прызнаюць сваёй віны і толькі трое з іх з'яўляюцца грамадзянамі Літвы. Самага суровага пакарання — пазбаўлення волі на 15 гадоў і канфіскацыі маёмасці — ён запатрабаваў для 71-гадовага Міколаса Буракявічуса, былога лідэра кампартыі Літвы, які абвінавачваецца ў публічных закліках да насільнага падрыву суверэнітэту краіны, стварэнні антыдзяржаўнай арганізацыі, наўмысным забойстве і раненнях пры абцяжваючых абставінах многіх людзей. У справе аб падзеях 13 студзеня пацярпелымі лічацца 1.782 чалавекі, чатырнаццаць з іх загінулі.

Саратніка Міколаса Буракявічуса 58-гадовага Юозаса Ярмалавічуса, былога ідэолага ЦК Кампартыі Літвы, прапанавана асудзіць на 13 гадоў пазбаўлення волі. Астатнім падсудным — Юозасу Куалялісу, Станіславу Міцкевічу, Леаніду Барташэвічу і Яраславу Пракаповічу — пракурор прапанаваў вызначыць пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі ад 7 да 4 гадоў.

На гэтым тыдні ў Вільнюскім акруговым судзе адбудзецца слуханне грамадзянскіх істцоў.

**Альгімантас БРАЗАЙЦІС.**

## Канцэртны тур прымы беларускай аперэты па гарадах краіны

Аб пачатку вялікага канцэртнага тура па гарадах Беларусі аб'явіла народная артыстка нашай краіны Наталля Гайда. Ён прымеркаваны да двух юбілеяў, якія адзначыць спявачка ў наступным годзе, — жыццёвага і 40-годдзя творчай дзейнасці. Аб гэтым яна паведаміла журналістам у час сустрэчы ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы.

Першыя выступленні прымы беларускай аперэты ў рамках яе гастрольнага тура адбудуцца 5 і 6 снежня ў Беразіне і Чэрвені. Усяго ж яна плануе даць 25—30 канцэртаў, якія пройдуць ва ўсіх абласных і большасці буйных раённых цэнтраў. Канцэпцыя канцэртнай праграмы дае магчымасць прадставіць усе этапы творчага шляху спявачкі.

Як вядома, Наталля Гайда спачатку спявала ў оперы, а апошнія 28 гадоў аддала беларускай аперэце. Вядома яна і як цудоўная выканаўца рамансаў. Завершыцца канцэртны тур Наталлі Гайды грандыёзным спектаклем-рэвю ў красавіку наступнага года ў Мінску. Акрамя гэтага, у Тэатры музычнай камедыі рыхтуецца новы спектакль, у якім галоўную ролю сыграе праслаўленая спявачка. Праўда, які, артыстка пакуль што трымае ў сакрэце.

**Аксана ПІВАВАР, БелТА.**

# Анекдоты з Грэцыі

### Абяцанні

— Чаму ты не выходзіш замуж?

— Ты ж ведаеш, што мой жаніх — дэпутат. Ён умее толькі абяцаць.

### Недаўменне

У час канцэрта піяніставіртуоза кішэнны злодзей звяртаецца да сябра:

— Не магу ўцяміць. Як можна губляць час на музыку з такімі спрытнымі пальцамі?

### Сяброўства

Два акцёры вядуць гаворку аб трэцім:

— Ён страшэнны эгаіст, фанабэрысты і вульгарны чалавек, гарлапан і хвалько.

— Ты памыляешся, ён нядрэнны мужык, я гэта добра ведаю, — пярэчыць другі.

— Ды ты не можаш ведаць яго лепш за мяне! — хвалюецца першы. — Я ж яго найлепшы сябар!

### Жанаты

— Чаму ў цябе ўвесь твар падрапаны?

— А ты што — халасты?

— Не...

— Чаму тады задаеш дурныя пытанні?

### Знаходка

Муж з хваляваннем кажа жонцы:

— Ты помніш, летась я згубіў кішэнны гадзіннік?

— Безумоўна, помню. Гэта быў выдатны гадзіннік.

— Ну дык вось, сёння я дастаю з шафы стары пінжак, які не апранаў амаль год, і што ты думаеш я знаходжу ў кішэні?

— Няўжо гадзіннік?

— Не! Я знайшоў там дзірку, праз якую, мабыць, выпаў гадзіннік...

### Перспектыва

— Дарагі, калі мы пажэнімся, я буду дзяліць з табой усе твае беды і непрыемнасці.

— Але ж у мяне няма ніякіх непрыемнасцей!

— Я ж сказала — калі пажэнімся. Абяцаю — яны будуць.

### Торт ці рыба?

— Я вымушана засмуціць цябе. Мае кулінарныя здольнасці пакуль мінімальныя. Умею добра гатаваць толькі торт і рыбу, — прызналася маладая жонка мужу.

— Разумею, даражэнькая. Нічога страшнага, з цягам часу навучышся. Толькі скажы, калі ласка, на талерцы торт ці рыба?

### Пра шторы

— Даражэнькі, ты б купіў шторы, а то сусед, які пасяліўся насупраць, можа ўбачыць, як я пераапранаюся.

— Не хвалюйся! Калі ён убачыць, дык сам купіць сабе шторы.

### Энцыклапедыя

У кнігарні прадавец прапануе купіць энцыклапедыю:

— Купіце, не пашкадуеце! Тут сабраны ўсе звесткі, якія вам неабходны.

— Шаноўны, вы не ведаеце маёй жонкі! Ад яе я даведваюся нават пра тое, што мне зусім не трэба...

### Месца

— Раней наш сабака займаў першае месца ў сэрцы маёй жонкі. Цяпер гэтае месца займаю я.

— І як гэта табе ўдалося?

— Разумееш, пёс настолькі разбэсціўся, што перастаў есці тое, што варыць жонка. А я ем!

### Уздых

Юнак не ведае, што купіць сваёй дзяўчыне на дзень нараджэння і пытае ў маці:

— Мама, калі б табе заўтра споўнілася васемнаццаць, што б ты хацела атрымаць у падарунак?

— Нічога болей, — уздыхнула маці.

### Прадбачлівы

Бацька дзяўчыны кажа кандыдату ў жаніхі:

— Вы, мабыць, курыце, п'яце, гуляеце ў карты і на жанчын зазіраецеся?

— Не, у мяне такіх недахопаў няма.

— Вось і дрэнна, вельмі дрэнна. Паколькі ў мяне гэтыя недахопы ёсць, я не хачу, каб мая жонка ўвесь час прымушала браць з вас прыклад.

### Дачакалася

Жонка накінулася на п'янага мужа, які ўвайшоў у дом:

— Колькі разоў я табе казала, што не хачу бачыць цябе ў такім стане?!

— Чаго ж ты тады чакаеш мяне да пяці гадзін раніцы?

**Падрыхтаваў Пятро СТЭФАНОВІЧ.**



Хочаце — верце, хочаце — не верце...

# Будучы тыдзень: зоркі прадказваюць

**АВЕН.** Верагодна, што для вас нарэшце надышоў час, калі можна рызыкнуць. Але толькі ў справе, у якой вы разбіраецеся. Прыслухоўвайцеся толькі да голасу ўласнага розуму. Не выключана, што хтосьці з вас можа атрымаць паведамленне, якое пакліча ў далёкую паездку, магчыма, за мяжу. Жанатыя і замужнія, сцвярджаюць зоркі, нацешацца сямейным шчасцем. Будзьце больш уважлівымі да дзяцей — ад іх можна чакаць любога сюрпрызу. І не толькі прыемнага.

**ЦЯЛЕЦ.** На працягу тыдня не надавайце занадта вялікай значнасці заўвагам акружаючых. Яны проста скептычна да вас адносяцца. Дзёрзка тварыце ды рызыкуйце. Зразумела, толькі ў тым выпадку, калі вашы сумленне, інтуіцыя і сэрца падказваюць, што вы маеце рацыю. У сярэдзіне тыдня не дужа чапляйцеся за старыя падыходы ў прафесійнай сферы, не бойцеся вынаходзіць. У выхадныя дазвольце сабе пагультайнічаць.

**БЛІЗНЯТЫ.** Вам, хутчэй за ўсё, прыйдзецца пільна сачыць за ўсім тым, што гаворыце або чуеце. Памятайце: залог поспеху для вас на гэтым тыдні — удала падабранае слова і актыўнасць у дзелавых перамовах. Да таго ж у гэты перыяд вы здолееце ўнесці нешта новае ў свой імідж. Таксама вам пажадана праявіць акуратнасць і прадабачлівасць, каб не "падмачыць" уласны аўтарытэт.

**РАК.** На гэтым тыдні ў вас даволі неблагія шанцы палепшыць сваё матэрыяльнае становішча. Зразумела, вам пашчасціць з фінансамі толькі тады, калі вы не будзеце чакаць з мора пагоды. На пачатку тыдня зоркі раяць трымаць у таямніцы вашы задумкі ці глабальныя ідэі. Хто ведае, магчыма пад вашымі нагамі — Кландайк... Напрыканцы тыдня, верагодна, нехта прыпаднясе вам некалькі каштоўных падарункаў. Больш усміхайцеся — вам гэта да твару.

**ЛЕЎ.** Цэнтральнай тэмай тыдня для вас стане майстэрства дамаўляцца і знаходзіць згоду. Увогуле, на працягу тыдня шмат чаго можна палепшыць і накіраваць у пазітыўнае рэчышча. Акрамя таго, пры належнай дакладнасці ў адносінах з выпадковымі знаёмымі вы здолееце спланаваць рэалізацыю некалькіх сумесных задумак ці рызыкоўных спраў. Не выключана, што з'явяцца магчымасці штосьці змяніць ва ўласным жыцці. Вашыя козыры на гэты тыдзень — красамоўнасць разам са здольнасцю зацікавіць канкрэтнымі перспектывамі.

**ДЗЕВА.** Змены на рабоце, якія адбыліся два тыдні таму, сцвярджаюць планеты, вось-вось павінны прынесці свой плён. Магчымыя ўскладненні са здароўем. Поспех, верагодна, на гэтым тыдні чакае тых, хто вырашыў, нарэшце, паспрабаваць свой талент на ніве медыцыны і архітэктуры. Закаханым нішто не павінна перашкодзіць у поўнай меры зведаць радасць узаемных зносін. Але зоркі таксама папярэджваюць, што выпадковае знаёмства можа перарасці ў даволі сур'ёзнае пачуццё.

**ШАЛІ.** На жаль, вас чакае невялікае, але ўсё ж такі расчараванне на працы. Мудрыя астролагі ўпэўнены, што лепш за ўсё ў сітуацыі, якая склалася, супакоіцца і па меры магчымасці не ўступаць ні з кім у канфрантацыю. Уладжваць фінансавыя праблемы зоркі раяць лепш у першай палове тыдня. Верагодна, што бізнесмены атрымаюць адразу некалькі заманлівых прапаноў, якія ў будучым абяцаюць хуткі прыбытак. Жанчын чакае перадышка і на рабоце, і дома.

**СКАРПІЁН.** Як не бывае ліха без дабра, так і вам на гэтым тыдні прыкметны спад дзелавой актыўнасці дасць магчымасць удзяліць больш увагі дому і сям'і. Дзяржаўных служачых, не выключана, чакае заахвочванне за дакладна выкананае крыху раней, чым чакалася, даручэнне кіраўніцтва. У сярэдзіне тыдня, запэўніваюць астролагі, абавязкова прыйдзе добрая навіна. А ўсе непаладкі на працы абмінуць вас. Адным словам, тыдзень пройдзе як па масле.

**СТРАЛЕЦ.** Планеты раяць вам быць напагатове — камусьці вашы поспехі не даюць спакою. Напрыканцы тыдня, верагодна, можна даволі ўпэўнена спадзявацца на лёс у вырашэнні фінансавых пытанняў. Хоць у сямейных адносінах нішто пакуль не прадказвае непрыемнасцей, пастарайцеся па меры магчымасці больш часу прысвячаць блізкім людзям. У адзінокай жанчыны, заўважаюць зоркі, з'явіцца магчымасць бліжэй пазнаёміцца з чалавекам, да якога яна ўжо даўно ў глыбіні душы зведвае яўную сімпатыю.

**КОЗЯРОГ.** Не выключана, што затрымка ў ажыццяўленні задуманага плана можа вас выбіць з каляіны, а большасць прыкладзеных раней намаганняў марна прападуць. Зоркі сцвярджаюць, што хоць вы і атрымаеце нядрэннае грашовае ўзнагароджанне, яно не прынясе вам маральнага задавальнення. Верагодна, давядзецца клікаць на дапамогу вытрымку і самавалоданне. Увогуле, астролагі раяць вам паберагчы свае сілы да лепшых часоў.

**ВАДАЛЕЙ.** Верагодна, вас чакаюць не самыя лепшыя сем дзён. Штосьці будзе не клеіцца, і работа зладжана ісці не будзе. Асабліва трывожнымі, на думку астролагаў, стануць панядзелак і аўторак. Але не надта спадзявайцеся, што і наступныя дні прынясуць вам палёгку. Не ўдасца пазбегнуць таксама і матэрыяльных страт. У сям'і могуць узнікнуць часовыя складанасці. Адным словам, што і казаць: зоркі маглі б размясціцца і больш удала. Але надзея на паляпшэнне сітуацыі ў вас усё ж такі з'явіцца — напрыканцы тыдня, калі вы атрымаеце прыемнае паведамленне ад каханага чалавека.

**РЫБЫ.** Пасярэдзіне тыдня можа ўзнікнуць складаная сітуацыя, але вы, верагодна, нягледзячы ні на якія перашкоды, знойдзеце выдатнае выйсце з гэтага становішча. Не раяць зоркі вам забывацца, што ўсё рана ці позна вяртаецца на кругі свае. Да канца тыдня магчымыя хатнія ўскладненні. Дарэчы, вам амаль напэўна давядзецца займацца чужымі праблемамі.

## Пятница, 4 декабря

### БТ

**06.30, 07.10** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**08.05** "Сегодня с вами...". К Международному дню инвалидов. Директор Ивенецкого детского дома-интерната Федор Гольдшмидт.
**08.45** Потребительская корзина. Социально-экономическая программа.
**09.00** Новости.
**09.10** ТВ — школе. Музыка. 8-й класс. Молодые исполнители Беларуси.
**09.40** Видеокурс английского языка. Передача 18-я.
**10.05** Телебом.
**11.00** Новости.
**11.10** Телесериал "Доктор Финли" (Великобритания). 8-я с.
**12.05** Мультфильмы.
**12.25** "А музыка звучит...". Танцуют Людмила Бржозовская и Виктор Саркисьян.
**13.00** Новости.
**13.15** "Эхо жаркого лета". По страницам фестиваля "Славянский базар-98".
**13.45** Короткометражный х/ф Белорусского телевидения "Аистенок".
**14.25** Окружающий мир. Социально-экологическая программа "Экология и продукты питания".
**15.00** Новости.
**15.15** Земля друзей. Белорусы на Смоленщине.
**15.40** Интеграция — евростиль. Международные контакты и современное производство.
**16.10** Слово Митрополита Филарета на праздник Введения в храм Пресвятой Богородицы.
**16.25** "Риск-версия". Телеигра.
**17.00** Новости (с сурдопереводом).
**17.10** Уроки Н.Новожиловой.
**17.40** Д/ф "Звезда Афанасия". ("Беларусьфильм").
**18.00** Телесериал "Доктор Финли" (Великобритания). 8-я с.
**19.00** Новости.
**19.15** "Сегодня с вами...". Лауреат премии Ленинского комсомола Беларуси артист Сергей Журавель.
**19.50** Континент. Обзор международных событий.
**20.05** Музыкальный антракт.
**20.20** "Смеяться — не грех". Развлекательная программа "Банка комиксов".
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.40** Событие.
**21.50** Белорусский хит-парад.
**22.00** "Цептер" представляет Г.Буркова и Д.Баниониса в х/ф "Сумка инкассатора" ("Ленфильм").
**23.35** Бездельник.
**00.05** Новости.
**00.15** Автопарк.
**00.25** "Видеопроцесс". Развлекательная программа.
**00.40** Ночной сеанс. Л.Грант и В.Хемел в х/ф "Она сказала "нет" (США).

### ОРТ

**08.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.30** Новости.
**08.15** Сериал "Жестокий ангел".
**09.20** Программа "Мы".
**10.00** "Чтобы помнили...".
**10.40** Смак.
**11.15** Программа "Вместе".
**14.15** Х/ф "Невероятное путешествие".
**15.40** Мультфильм "Добрыня Никитич".
**16.00** Сериал "Жестокий ангел".
**17.15** Джентльмен-шоу.
**17.45** Играй, гармонь любимая!
**18.15** Здоровье.
**18.45** Поле чудес.
**19.45** "Спокойной ночи, малыши!".
**20.00** Время.
**20.50** Фильм "Узел".
**22.45** Х/ф "Аты-баты, шли солдаты" (1976 г.).

### РТР

**06.00, 08.30, 08.50** Доброе утро, Россия!
**08.15** Дежурная часть.
**08.35** Телеигра "Программа передач".
**08.55** Товары — почтой.
**09.00** Сериал "Санта-Барбара".
**09.45** Музыка, музыка...
**10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Вести.
**15.15** Мультфильмы "Грибы с приправой", "Хитрые старушки".
**15.30** Сериал "Первые поцелуи".
**16.30** "Башня".
**17.00** Компьютер.
**17.15** Сериал "Жизнь Клима Самгина".
**18.30** Дежурная часть.
**18.35** История одного события.
**19.35** Подробности.
**19.50** "Аншлаг" представляет.
**20.55** Историко-биографический фильм. К 80-летию А.Солженицына. "Избранник". 1-я и 2-я с.
**22.45** Дежурная часть.
**23.30** Горячая десятка.

### КУЛЬТУРА

**07.05, 11.30, 13.30, 19.30, 23.00** Новости культуры.
**07.25** Консилиум.
**07.50** "Российский курьер".
**08.30** Ноу-хау.
**08.45** Поклонникам Терпсихоры.
**09.00, 15.00, 17.00** Новости.
**09.05** Х/ф "Дух улья".
**10.40** Е.Габрилович. "Последний автограф".
**11.05** Академия спорта.
**11.25** Живое дерево ремесел.
**11.40** Рядом с тобой.
**12.00, 13.45** Спектакль "Десять дней, которые потрясли мир".
**14.45** Сотворить пространство.
**15.05** Сериал "Ветер жатвы".
**15.55** "Лукоморье".
**16.15** "Беседы о русской культуре".
**17.05** "2003".
**17.10, 17.50** "Декабрьские вечера".
**17.35** Без визы.
**18.15** А.Баталов. "Не за деньги жили...".
**18.40** "Портреты в камне".
**19.10** Чудо-сказка.
**19.50** "Апокриф".
**20.15** "Негаснущие звезды".
**20.45** После новостей.
**21.05** Х/ф "Дух улья".
**22.40** "Pro memoria".

### НТВ

**05.00** Сегодня утром.
**08.10** Сериал "Скорая помощь".
**09.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00** Сегодня.
**09.15** "Ключи от форта Байяр".
**11.20** "Старый телевизор".
**13.25** Сериал "Вторая возможность".
**14.10** Сегоднячко.
**15.20** Сериал "Золотые крылья Пенсаколы".
**16.05** "Сегоднячко".
**16.35** Футбольный клуб.
**17.30** Впрок.
**17.40** Криминал.
**18.35** Герой дня.
**18.50** Детектив "Без права на ошибку".
**20.25** Спросите Лившица...
**21.45** Весь Жванецкий.
**22.20** Сегодня в полночь.
**22.40** Х/ф "Летняя ночь в городе".

### 8-й канал

**18.00** Программа Кеннета Копланда.
**18.30** Веселые мелодии.
**18.45** Х/ф "Погоня за бриллиантами".
**20.15** Вечарніца.
**20.30** Х/ф "Угрюм-река". 4-я с.
**21.45** Сцена Европы.
**22.15** Мистический триллер "Похороненные заживо".

**Адрас рэдакцыі:**
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: (017) 229-28-71.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: 229-29-04.
**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**



Рэгістрацыйнае пасведчанне №246. Нумар газеты надрукаваны з дыяпазітываў у ПП "Мэджык". Адрас: г. Мінск, вул. В. Харужай, 13. Падпісаны ў друк у 21.00. Фармат А-2. Тыраж: суботні — 61050 экз., у другія дні — 55000 экз. Заказ № 1428